ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!



# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 28 (1562) | Пятніца, 7 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.

## Будні Салігорска

Там, дзе нядаўна было поле, узвышаюцца шматпавярховыя жылыя дамы новага горада. Працуюць універмаг, камбінат бытавога абслугоўвання, дзіцячы сад, лазня, бальніца. У хуткім часе будаўнікі здадуць у эксплуатацыю шырокаэкранны кінатэатр. Вядзецца будаўніцтва горнага тэхнікума.

Добрая слава ходзіць у горадзе шахцёраў аб брыгадзе камуністычнай працы, якую ўзначальвае камуніст Пятро Старавойт. Цяпер брыгада будуе жылы дом, які вы бачыце на здымку.

# СПРАВА ПАЧЭСНАЯ, ВАЖНАЯ

У агульнанароднай барацьбе за дастойную сустрэчу XXII з'езду КПСС пачэсная роля належыць людзям творчай працы: пісьменнікам, кампазітарам, мастакам, акцёрам.

Некалькі месяцаў назад «Правда» заклікала пісьменнікаў, журналістаў, вялікую армію рабочых і сельскіх карэспандэнтаў: **створым кнігі пра герояў сямігодкі!** Заклік «Правды» знайшоў гарачую падтрымку сярод пісьменнікаў, журналістаў, усіх работнікаў савецкага друку. Гэта і зразумела. Стварыць паўнакроўныя мастацкія вобразы перадавых людзей нашых дзён, будаўнікоў камунізма— справа ганаровая, высакародная.

Заклік «Правды» актыўна абмяркоўваўся ў Саюзе пісьменнікаў БССР, у Саюзе мастакоў. Было вырашана стварыць нарысы, у якіх бы ярка былі паказаны працоўныя подзвігі герояў сямігодкі, раскрыты багаты ўнутраны свет гэтых людзей, іх палымяны савецкі патрыятызм, бязмежная адданасць справе камунізма.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР запланавала выпусціць серыю нарысаў «Нашы сучаснікі» (кожны нарыс — самастойная кніжка), зборчік матэрыялаў «Беларусь сёння» (па прапанове Саюза журналістаў БССР) і кнігу нарысаў пра лепшых людзей Магілёўскай вобласці (аўтары — пісьменнікі і журналісты Магілёўшчыны, а таксама тыя, хто раней жыў і працаваў там).

Рукапіс кнігі аб перадавых людзях Магілёўшчыны ўжо рыхтуецца да друку. Некаторыя пісьменнікі таксама прадставілі выдавецтву рукапісы сваіх новых нарысаў для выдання іх у серыі «Нашы сучаснікі». Уважлівае знаёмства з усімі гэтымі творамі ў нас у рэдакцыі выклікала пэўныя думкі, прапановы, заўвагі па сутнасці.

Некаторыя аўтары паказваюць сваіх герояў аднабакова. С. Кухараў, напрыклад, напісаў нарыс пра маладую даярку Любу Мядзведкаву з Слаўгарадскага раёна і членаў яе брыгады. Брыгада на чале з Любаю змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы.

Калі верыць аўтару, дык гераіня нарыса і яе сяброўкі цікавяцца толькі тым, каб своечасова і добра накарміць, напаіць і падаіць кароў, сачыць за чысцінёй у памяшканнях для жывёлы. Але хіба даяркі не ходзяць у бібліятэку, не глядзяць кінафільмаў, не слухаюць лекцый і дакладаў, не дзеляцца думкамі аб жыцці?

Знатны чалавек жыве і працуе ў калгасе «Памяць Ільіча» на Случчыне. Гэта — Андрэй Худзякоў, брыгадзір трактарнай брыгады. Чым ён цікавы? Калі па ўсёй краіне разнеслася вестка пра выдатную ініцыятыву варонежскага механізатара Івана Манукоўскага, Андрэй Худзякоў, гэты ўлюбёны ў сваю справу чалавек, захацеў вывучыць вопыт Манукоўскага, прымяніць яго ў сваім калгасе. Газетныя артыкулы пра Манукоўскага не задаволілі Худзякова. І ён вырашыў паехаць да самага наватара. Але старшыня калгаса адмовіў Худзякову ў камандзіроўцы. Маўляў, грошы патрэбны на справы больш важныя... Але гэта не спыніла Худзякова, ён паехаў да Манукоўскага ў далёкую Варонежскую вобласць без камандзіроўкі, на свае грошы. Вярнуўшыся ў родны калгас, Худзякоў прымяніў новы, толькі што вывучаны вопыт Манукоўскага па механізаванай апрацоўцы кукурузы, і дамогся небывалага ў тутэйшых умовах ураджаю гэтай каштоўнай культуры.

Пра ўсё гэта напісаў у сваім нарысе П. Валкадаеў. Напісаў скупа, нават пра гэтую незвычайную паездку. А ў выпадку ж з камандзіроўкаю Андрэй Худзякоў паказаў сябе чалавекам, які глыбока разумее свой грамадскі абавязак!

Такі матэрыял, як кажуць, сам ідзе ў рукі нарысіста, сам просіцца на паперу. Мы параілі С. Кухараву і П. Валкадаеву не рабіць сваіх герояў празмерна прыземленымі, а, наадварот, ярчэй паказаць іх багаты духоўны свет, высокае маральнае аблічча. Нарысы былі дапрацаваны, пасля чаго, на нашу думку, сталі больш змястоўнымі, больш цікавымі.

Наш сучаснік — гэта будаўнік камунізма. Рысы камуністычнай будучыні відаць ужо зараз, і не толькі ў гіганцкіх дасягненнях навукі і тэхнікі, у вялікім размаху будаўніцтва, у росце культуры і дабрабыту народа. Яны, перш за ўсё, у росце свядомасці нашых людзей. Тралейбусы без кандуктараў, зарплата без касіраў, магазіны без прадаўцоў, кінатэатры без білетных кантралёраў... Шматлікія праявы высокага сумлення, унутранай самадысцыпліны сталі ў наш час масавай з'явай. І калі нарысіст, ствараючы вобраз сучасніка, палымянага барацьбіта за камунізм, героя сямігодкі, абходзіць маўчаннем пытанні этыкі і маралі, душэўнай высакароднасці савецкага чалавека, дык такі вобраз, зразумела, нельга прызнаць паўнацэнным, праўдзівым. Хоча таго аўтар ці не, але ён збядняе, прыніжае свайго героя.

Сярод нарысаў, якія паступілі ў выдавецтва, ёсць і такія, дзе вобраз нашага сучасніка паказваецца ў яго далёкім мінулым. Вось, напрыклад, нарыс магілёўскага журналіста М. Караля пра Героя Сацыялістычнай Працы даярку калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна Ф. Кісялёву. Нарыс мае некалькі раздзелаў. У першым гаворка ідзе пра перыяд першай сусветнай вайны, затым — пра калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Потым вайна з белафінамі, за ёй — Вялікая Айчынная вайна, у завяршэнне—нялёгкія гады пасляваеннай разрухі, першыя крокі па ўмацаванню калгаснай гаспадаркі пад кіраўніцтвам К. П. Арлоўскага і г. д. А пра гераіню — бегла, скарагаворкай...

У храналагічнай паслядоўнасці паказваецца і жыццё Ф. Кісялёвай. Нарыс чытаецца ў некаторых месцах з цікавасцю. Але як толькі аўтар даходзіць да нашых дзён, да сямігодкі, нарыс раптоўна абрываецца: аўтар нібы траціць мову!

У такім жа плане напісаў свой нарыс і малады бабруйскі літаратар А. Гарэлік. У рукапісу, аб'ёмам крыху больш аўтарскага аркуша, ён вырашыў расказаць пра трох лепшых калгаснікаў сельгасарцелі «Гігант» Бабруйскага раёна. Грунтоўна, цікава напісаць пра трох герояў на адным аўтарскім аркушы — не проста, не лёгка. Нягледзячы на гэта, пра кожнага з іх аўтар пачынае здалёк. Асобна, напрыклад, расказваецца пра тое, якім было жыццё сялян у вёсках Вялікія і Малыя Бортнікі... да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі; затым пра першыя крокі калгаснага жыцця. У другім нарысе гаворка ідзе, перш за ўсё, пра трыццатыя гады ў вёсцы, пра першы трактар, пра першую калгасную аўтамашыну, пра першага калгаснага шафёра — героя нарыса.

Аўтарам не ўдалося стварыць сапраўдныя вобразы сучаснікаў, расказаць пра іх сённяшнюю самаадданую працу. Нарысы нібы абарваны на паўслове, людзі з усімі іх радасцямі і горам — у далёкім мінулым.

Відаць, не трэба даказваць, што патрэбны нарысы не ў любым плане, хоць і напісаныя з пазіцый сённяшняга дня, а пра лепшых людзей сучаснасці, пра герояў сямігодкі.

Разам з тым варта сказаць, што кожны аўтар, малюючы вобраз будаўніка камунізма, мае, вядома, права на некаторыя адступленні гістарычнага плана, калі такія адступленні дыктуюцца задумай і будуць удала дапаўняць, яшчэ больш раскрываць сённяшняе жыццё і працоўныя подзвігі героя. Кампазіцыйна такі нарыс трэба будаваць умела, у пэўных прапорцыях паміж мінулым і цяперашнім, так, каб даўно мінулыя гады жыцця героя не засланялі яго кіпучую дзейнасць у нашы дні.

Іншы раз выдавецтву прапануюць нарысы, пабудаваныя на матэрыяле бягучага жыцця, як кажуць, напісаныя па гарачых слядах тых ці іншых падзей. Такі нарыс К. Жыгоцкага аб будаўніках газаправода Дашава—Мінск. Але, пазнаёміўшыся з ім, мы раптам знайшлі, што ў ім няма галоўнага героя, на кожнай старонцы — толькі новыя імёны і прозвішчы. Такі нарыс як літаратурны твор не можа зацікавіць чытача і, значыць, не можа быць выдадзены.

Мы не ставілі сваёй мэтай даваць вычарпальныя характарыстыкі нарысаў, атрыманых выдавецтвам. Хацелася спыніць увагу пісьменнікаў і журналістаў на найбольш характэрных і істотных недахопах ужо напісаных нарысаў, дапамагчы аўтарам ясней зразумець, якія патрабаванні прад'яўляюцца да нарыса як да важнейшага баявога жанра мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

Да XXII з'езду КПСС засталося не так ужо многа часу. Між тым, Дзяржаўнае выдавецтва БССР яшчэ не мае нарысаў, у якіх глыбока і палымяна, на высокім ідэйна-мастацкім узроўні раскрываліся б шматгранныя, узвышаныя рысы будаўнікоў камуністычнага грамадства. І гэтая акалічнасць не можа не выклікаць трывогі. Недаравальна зацягваецца справа са стварэннем зборніка «Беларусь сёння», які рыхтуе Саюз журналістаў БССР.

Паскорыць выпуск да гістарычнага XXII з'езду нашай партыі высокамастацкіх кніг пра нашых сучаснікаў, знатных прадстаўнікоў рабочага класа і калгаснага сялянства рэспублікі, — справа вялікай палітычнай важнасці, справа гонару кожнага літаратара.

**Д. УКСУСАЎ,**
**загадчык рэдакцыі масава-палітычнай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР.**

## У КАМІТЭЦЕ ПА ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЯХ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

4 красавіка ў Маскве пад старшынствам М. С. Ціханава адкрыўся пленум Камітэта па Ленінскіх прэміях у галіне літаратуры і мастацтва.

Пасля дыскусіі па кандыдатурах, пакінутых для абмеркавання, будзе прынята рашэнне аб прысуджэнні Ленінскіх прэмій 1961 года.

У гэтым годзе савецкая грамадскасць прыняла асабліва актыўны ўдзел у абмеркаванні кандыдатур, вылучаных на атрыманне Ленінскіх прэмій. У параўнанні з папярэднімі гадамі павялічылася колькасць калектыўных абмеркаванняў у мастацкіх, творчых і навуковых арганізацыях, на заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах, у навучальных установах. Значна шырэй абмяркоўваюцца кандыдатуры ў друку. Пісьмы аб кандыдатах 1961 года прыслалі ў Камітэт жыхары многіх гарадоў і вёсак нашай Радзімы, а таксама з некаторых зарубежных краін.

## Тэарэтычная канферэнцыя

Днямі адбылася тэарэтычная канферэнцыя творчых работнікаў Мінска. Яе праводзіў гарадскі камітэт КПБ.

На канферэнцыю былі запрошаны пісьменнікі, артысты, рэжысёры, мастакі, кампазітары, кінаработнікі.

Удзельнікі канферэнцыі заслухалі даклад кандыдата мастацтвазнаўчых навук Ул. Няфёда «Сучасная савецкая рэчаіснасць — галоўны змест творчасці дзеячоў літаратуры і мастацтва».

З садакладамі па тэме выступілі: мастацкі кіраўнік Рускага тэатра імя Горкага В. Рэдліх («Роля тэатра ў стварэнні рэпертуару на сучасную тэму»), кампазітар А. Багатыроў («Сучаснасць у музыцы»), кінарэжысёр Р. Віктараў («Рэчаіснасць і яе адлюстраванне ў сучаснай кінематаграфіі»), старшыня праўлення Саюза мастакоў П. Нікіфараў («Вобраз перадавога сучаснага чалавека ў творах выяўленчага мастацтва»).

Пасля даклада і садакладаў разгарнуліся ажыўленыя спрэчкі.

Справаздача пра канферэнцыю будзе апублікавана.

# НАШ СУЧАСНІК у жыцці і мастацтве
# БАЧЫЦЬ ГАЛОЎНАЕ

У паняцце «сучасная тэма» ўкладваюць часам розны сэнс. Некаторыя, напрыклад, мяркуюць, што сучаснай можа быць любая тэма, якая так ці інакш адказвае на запатрабаванні сённяшняга чытача, гледача і дапамагае ўзбагачэнню іх ведаў, выхоўвае эстэтычны густ. Але пры такім падыходзе рамкі паняцця сучаснай тэмы рассоўваюцца бясконца і размова на гэтую тэму робіцца бессэнсоўнай.

Ніхто не пярэчыць супраць таго, што некаторыя мастакі звяртаюцца да гісторыі. Творы на гістарычныя тэмы могуць адыграць немалую ролю ў выхаванні нашых людзей. Аднак літаратура і мастацтва перш за ўсё павінны расказваць пра свой час, пра тое, што мы бачым і перажываем цяпер, у нашы дні.

Што можа быць галоўным у паняцці сучаснасці? Калі мы правільна зразумеем, якімі рысамі вызначаецца сённяшняе жыццё, што ў ім з'ўляецца галоўным, рашаючым, што з'яўляецца штодзённым клопатам нашай партыі, нашага народа, кожнага працоўнага чалавека, дык тым самым адкажам на гэтае пытанне.

У гады Айчыннай вайны галоўнай, рашаючай задачай у жыцці савецкага народа была перамога над фашызмам. І тады не было спрэчак пра тое, што такое сучасная тэма, якая галоўная тэма мастацтва. Гэтай тэмай была тэма пераможнай вайны.

Некаторыя таварышы і цяпер хочуць даказаць, што тэма Айчыннай вайны — сучасная. Тэма вайны, безумоўна, важная і распрацоўваць яе неабходна таксама, як, дапусцім, тэму Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але лічыць яе сучаснай і, стварыўшы твор пра вайну, супакойваць сябе, што і ты зрабіў свой уклад у раскрыццё зместу сённяшняга жыцця, — памылкова.

Магчыма, пра вайну яшчэ і не сказана самага галоўнага, самага моцнага мастацкага слова. А яно павінна быць сказана. І тым не менш, сучаснасць — гэта сучаснасць.

У нашы дні баяздольнасць мастацтва павінна вызначацца тым, як яно адгукаецца на першачарговыя задачы, якія цяпер вырашае народ. А гэтыя задачы — разгорнутае будаўніцтва камуністычнага грамадства. Жыццё людзей, праца, вучоба, дружба, каханне, пераадоленне перажыткаў мінулага і г. д. — усе гэтыя праблемы, вырашаныя з пункту погляду барацьбы за камунізм, за камуністычныя ідэалы, — вось гэта і будзе правільнае разуменне сучаснасці.

Трэба ўлічваць пры гэтым значнасць тэмы. Галоўная ўвага павінна быць звернута на тэмы сапраўды праблемныя, якія хвалююць наша грамадства. Мастак, калі ён жыве інтарэсамі народа і хоча быць найбольш карысным яму ў барацьбе за камунізм, абавязаны трымаць руку на пульсе нашага часу. А гэты пульс напоўнены патрыятычнай працай мільёнаў савецкіх людзей.

Іменна грамадская праца, узведзеная, гаворачы словамі М. Горкага, «на ступень мастацтва», праца, якая становіцца паэмай, песняю сэрцаў,— асноўная, генеральная тэма сучаснай літаратуры і мастацтва.

Калі гаварыць пра творы мастацтва, якія знаходзяцца на прынцыпова правільным шляху вырашэння праблемы сучаснай тэмы, дык я назваў бы тут перш за ўсё кінафільм «Паэма пра мора». Гэты твор, нягледзячы на асобныя недахопы, сучасны, ён кліча наперад, вучыць змагацца супраць хібаў у жыцці, а галоўнае — заахвочвае людзей да стваральнай працы, раскрывае яе прыгажосць.

Іменна радасць працы — галоўны змест «Паэмы пра мора». Гэты фільм — пра веліч духу савецкага чалавека. Тут усё зніталася ў адно цэлае: і радасць, і гора, і асабістае, і грамадскае. Гэта фільм, у якім экскаватары і землечарпалкі не засланяюць чалавечага шчасця і гора, не падмяняюць чалавека. Мы з усёй яскравасцю бачым яго розум, сілу, яго невычэрпныя творчыя магчымасці.

Гэта зусім не азначае, што ў кіно ці на сцэне ва ўсіх выпадках трэба паказваць чалавека непасрэдна ў працы. Зусім не абавязкова герой павінен стаяць ля станка ці працаваць на полі. Як трапна выказаўся Б. Лаўранёў, галоўнае, што ў гэтым выпадку патрабуецца ад драматурга, гэта — паказ працоўнай псіхалогіі чалавека.

Мне могуць сказаць, што фільм «Паэма пра мора» не вельмі доўга быў на экране, не вельмі яго наведвалі гледачы. Відаць, «Асцярожна, бабулька!» або «Граф Монтэ-Крыста» сабралі большую аўдыторыю. Які ж вывад з гэтага? Што, гэтыя фільмы лепшыя? Не. Я тлумачу гэта тым, што мы яшчэ дрэнна выхоўваем гледача, часам патураем дрэнным эстэтычным густам.

Гледача, асабліва маладога, часам проста разбэшчваюць мяшчанска-сентыментальнымі, слязлівымі творамі, месца дзеяння якіх замыкаецца ў чатырох сценах, асноўны канфлікт якіх праходзіць у спальні, або ў лепшым выпадку — на дачы.

За апошнія гады ў беларускай драматургіі з'явілася некалькі п'ес, пра якія можна сказаць, што яны знаходзяцца ў галоўным рэчышчы літаратурнага руху. І перш за ўсё хацелася б назваць п'есы А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!» і «Лявоніха на арбіце», К. Губарэвіча «На крутым павароце», І. Шамякіна «Выгнанне блудніцы». Гэтым п'есам уласцівы пафас сцвярджэння новага ў нашай рэчаіснасці, новых адносін паміж людзьмі, нецярпімасці да недахопаў і нястомнай барацьбы за ўсё лепшае. Гэтыя п'есы сапраўды сучасныя, яны ўтаргаюцца ў жыццё і многаму могуць навучыць нашага гледача.

Гаворачы пра паняцце сучаснасці, нельга забываць: у яго ўваходзіць не толькі тое, што адбываецца ў нашай краіне. Тут нельга абмяжоўвацца дзяржаўнымі граніцамі. Падзеі ў Конга, на Кубе або ў будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку — гэта таксама наша сучасная рэчаіснасць, і яна павінна быць прадметам мастацкага ўвасаблення. Калі беларускія паэты, празаікі час ад часу звяртаюцца да гэтых тэм, дык драматургі — амаль ніколі. А ў савецкім тэатры ёсць нядрэнныя традыцыі. Прыгадайце сатырычную п'есу «Востраў міру» Пятрова, п'есы Сіманава «Рускае пытанне», Лаўранёва «Голас Амерыкі» і некаторыя іншыя.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ПРА БЫЛЫЯ ПАХОДЫ

У канцэртнай зале акруговага Дома афіцэраў адкрылася нарада ваеннай камісіі Саюза пісьменнікаў СССР сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі і пісьменнікамі Украіны, Масквы, Ленінграда, Смаленска і іншых гарадоў краіны, на якой абмяркоўваюцца пытанні развіцця мастацкай і мемуарнай літаратуры аб партызанскай барацьбе народаў Савецкага Саюза з фашысцкімі захопнікамі ў гады Айчыннай вайны.

У Мінску сустрэліся сябры па зброі і пяру, сабраліся, каб падзяліцца ўспамінамі аб мінулай вайне, а таксама вопытам стварэння кніг на ваенна-патрыятычную тэму. Сярод удзельнікаў нарады кіраўнікі партызанскага руху, пісьменнікі, чые творы аб вайне вядомы шматлікім чытачам нашай краіны: Ю. Збанацкі, В. Зямляк, І. Ганчарэнка, А. Хіжняк, І. Стаднюк, К. Ваншэнкін, А. Ісбах і многія іншыя. Прыбыў на нараду Герой Савецкага Саюза пісьменнік П. Вяршыгара, які разам з пінскім партызанскім злучэннем генерала Каржа (Камарова) пабываў у час вайны пад Стаўбцамі, у Налібоцкай пушчы і ў іншых мясцінах нашай рэспублікі.

З дакладамі пра творы, прысвечаныя партызанскай барацьбе ў мінулую вайну, выступілі Н. Пашкевіч (Беларусь) і Д. Капіца (Украіна). Заслуханы таксама садаклады Ю. Каралькова — пра падпольную барацьбу ў час фашысцкай акупацыі, А. Ісбаха—пра рух супраціўлення ў акупіраваных фашыстамі краінах.

У спрэчках выступілі Я. Садоўскі, І. Стаднюк, Н. Масквін, І. Залатар, Я. Вераб'ёў і іншыя.

Нарада працягвае сваю работу.

На здымку: група ўдзельнікаў нарады ваеннай камісіі, скліканай Саюзам пісьменнікаў СССР. Злева направа: пісьменнік І. Залатар, аўтар кнігі «Заметкі дэсантніка», праслаўленая беларуская партызанка Герой Савецкага Саюза **М. Осіпава**, былыя камандзіры партызанскіх злучэнняў у Беларусі **С. Сідарэнка** і **І. Ізох**.



Фота К. Азіна.

## Для сельскіх бібліятэк

Работнікі бібліятэкі Мінскага трактарнага завода вырашылі дапамагчы некаторым калгасам стварыць бібліятэкі. Пры падтрымцы заводскага камітэта прафсаюзаў дзве бібліятэчкі па 150 кніг мастацкай, палітычнай і дзіцячай літаратуры ўжо накіраваны ў падшэфны калгас «Іскра» Плешчаніцкага раёна і ў саўгас «Доктаравічы» Капыльскага раёна.

У добрай справы лёгкія крылы. Калі пра гэта даведаліся на швейнай фабрыцы імя Крупскай, пачын трактаразаводцаў быў падхоплены. За справу ўзялася камсамольская арганізацыя і абавязалася сабраць дзве тысячы кніг для свайго падшэфнага калгаса імя Свярдлова Чэрвеньскага раёна.

Ва ўсіх цэхах ідзе збор літаратуры. Многія швачкі, каб даставіць больш прыемнага сваім падшэфным, купляюць новыя выданні. Сабрана ўжо каля 1 000 кніг.



**На здымку:** (справа налева) камсамолкі эксперыментальнага цэха фабрыкі імя Крупскай — раскладчыца Надзя **Зайцава**, лякальшчыца Ніна **Чумак** і лабарантка Рыта **Данянкова** ўпакоўваюць кнігі перад адпраўкай іх падшэфным.

Тэкст і фота **В. Андронава.**

З блакнота журналіста

# ГЭТА МАГУТНЫ СТЫМУЛ

Сустрэча з першым сакратаром Карэліцкага райкома партыі Паўлам Арсенцьевічам Жалезняковічам заўсёды ўзбагачае. Чалавек з вялікім жыццёвым вопытам, ён добра ведае сельскую гаспадарку і асабліва душу чалавека-працаўніка. Характэрна, што, вырашаючы вытворчыя пытанні, Павел Арсенцьевіч заўсёды звяртае ўвагу на матэрыяльную зацікаўленасць калгаснікаў у развіцці грамадскай гаспадаркі. У гутарцы пра эканамічны стан таго ці іншага калгаса ён расказвае не толькі пра вытворчасць, але і пра аплату працы. Адчуваеш, што людзі і іх патрэбы ў партыйнага кіраўніка — на першым плане.

На жаль, сустракаешся часам і з партыйнымі работнікамі, якія добра памятаюць паказчыкі калгасаў па вытворчасці мяса і малака на сто гектараў, але не маюць уяўлення пра ўзровень аплаты працы калгаснікаў. Яны не ведаюць, ці своечасова выдаюць у калгасах авансы, ці разлічыліся з працаўнікамі за мінулыя гады. Няўвага да гэтых пытанняў прыводзіць да нізкай працоўнай дысцыпліны ў калгасе. А гэта стрымлівае рост культуры земляробства і жывёлагадоўлі, тэмпы развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці.

Вядома, што закупка жывёлы ці іншай прадукцыі па рынадчых цэнах і яе продаж дзяржаве па існуючых нарыхтоўчых цэнах, якая мела месца ў апошні час, наносіла страты арцелям і калгаснікам. Ашуканства партыі і дзяржавы не заўважалі многія кіраўнікі якраз таму, што не сачылі за такім важным эканамічным паказчыкам, як аплата працадня.

У пачатку года я быў удзельнікам бурнага сходу калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі «Шлях да камунізма» Столінскага раёна. Абмяркоўваліся рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС і абавязацельствы калгаса па дастойнай сустрэчы XXII з'езду нашай партыі. Калгаснікам вельмі спадабалася прамова М. С. Хрушчова на Пленуме, яго вострая крытыка кар'ерыстаў, ашуканцаў дзяржавы і народа.

Члены арцелі з гневам гаварылі пра былога старшыню калгаса Ф. Змітручкова, пры якім рэзка знізілася аплата працадня. Ён аддаваў больш увагі закупкам жывёлы на рынках і масла ў магазінах, чым догляду кароў і адкорму свіней на калгасных фермах. Такая камерцыя нанесла арцелі вялікія страты. Рэзка знізілася працоўная актыўнасць калгаснікаў, бо на працадні ў 1959 г. было выплачана ўсяго толькі па 3 рублі (тут і далей прыклады прыводзяцца ў старых грашах), тады як у пачатку года праўленне абвясціла, што гарантуе па 10 рублёў на працадзень. У калгаснікаў было падарвана давер'е да кіраўнікоў арцелі. Людзі падаліся на заробкі. Летась ураджай у калгасе збіралі ў асноўным навучэнцы Столінскага сельскагаспадарчага тэхнікума і вучні сярэдняй школы.

Калгаснікі, якія выступалі на сходзе, горача ўхвалялі парады М. С. Хрушчова пра шляхі далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і ў прыватнасці пра ажыццяўленне ў калгасах прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці ў павелічэнні вытворчасці прадукцыі земляробства і жывёлагадоўлі.

Мудрыя рашэнні партыі нарадзілі ў калгаснікаў свежую энергію, натхняюць на стваральную працу. Палітыка партыі ўлічвае карэнныя інтарэсы народа, адпавядае яго жыццёвым патрэбам.

Усё шырэй разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва за высокія ўраджаі, за новыя поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі. Нараджаюцца новыя формы маральнага заахвочвання. Неабходна ў кожным калгасе разумна спалучаць маральныя і матэрыяльныя стымулы да працы.

З вёскі Далматоўшчына да канторы калгаса «Сталінскі шлях» Карэліцкага раёна я ехаў з даглядчыкам жывёлы Мікалаем Ермаком. Спачатку мы гутарылі пра незвычайна цёплую зіму. Потым мой спадарожнік пачаў расказваць пра сваю працу на ферме, пра ўдзел у абласной нарадзе жывёлаводаў.

— Ведаеце, аднаго мяне з нашага калгаса паслалі на тую нараду, ды і з усяго раёна дванаццаць чалавек было. Мяне там узнагародзілі гадзіннікам «Урал».

Ён з гонарам гаварыў пра гэтую падзею ў жыцці. Адчувалася, што яго не столькі радуе падарунак, колькі грамадскае прызнанне высокай чалавечай годнасці калгаснага пастуха.

Семнаццаць перадавікоў з брыгад і ферм занесены на Дошку гонару калгаса «Сталінскі шлях». Тут і фатаграфія маладога трактарыста Івана Конюха. Летась ён апрацаваў на трактары «Беларусь» 511 гектараў (у пераводзе ўсіх работ на мяккае ворыва).

Іван Конюх — камуніст. Працуе старанна, лічыць партыйным абавязкам паказаць прыклад іншым калгаснікам. Разам з тым, гэты механізатар, можна сказаць, з залатымі рукамі, задаволены, што багата зарабіў у калгасе і грошай, і прадуктаў. І сапраўды, калі добра жывецца — работа весялей ідзе.

У насценных газетах і «Баявых лістках» калгаса рэгулярна паведамляецца пра перадавікоў спаборніцтва. На ўрачыстых сходах, прысвечаных святам Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і Першамая, праўленне сельгасарцелі ўручае 20—25 перадавікам спаборніцтва каштоўныя падарункі. Многа маладых працаўнікоў было адзначана ў сувязі з 40-годдзем Ленінскага камсамола Беларусі. Чалавеку, які прэміяваны, прыемна, што яго працу ўшаноўвае грамадскасць.

Старшыня сельгасарцелі Аляксандр Іванавіч Матусевіч расказвае, што ў калгасе сталі больш намалочваць хлеба, павялічылася вытворчасць малака, свініны. Важную ролю ў гэтым адыгралі меры матэрыяльнага заахвочвання калгаснікаў. Ільнаводы атрымліваюць 15 працэнтаў грашовага прыбытку, які паступіў за здадзеную брыгадай або звяном ільнопрадукцыю. За кожную тону цукровых буракоў, вырашчаных на прысядзібным участку, калгаснікі атрымліваюць 20 рублёў і бясплатна 2,8 кілаграма цукру.

Ужо год, як жывёлаводы арцелі атрымліваюць гарантаваную грашовую аплату. Заробкі даярак, свінарак, цялятніц залежаць ад колькасці і якасці атрыманай прадукцыі. Апрача таго, калгаснікі, якія працуюць у жывёлагадоўлі звыш пяці год, штомесячна атрымліваюць пяць працэнтаў надбаўкі да свайго заробку. За кожны наступны год дадаецца адзін працэнт «надбаўкі за стаж». Летась даяркі Лізавета Ваўчок, Аўгіння Бабко зарабілі ў сярэднім па 600 рублёў у месяц. На аднаго работніка жывёлагадоўлі летась атрымана прадукцыі на 80 працэнтаў больш у параўнанні з папярэднім годам.

Шкада, што ў большасці калгасаў рэспублікі дагэтуль не ўжываюцца меры матэрыяльнага заахвочвання, асабліва механізатараў, за перавышэнне планавых заданняў па ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур.

Некаторыя старшыні перадавых калгасаў не згаджаюцца дадаткова аплачваць працу калгаснікаў, калі ў гаспадарцы ажыццяўляецца грашовая аплата. Яны лічаць, што гэта быццам можа знізіць асноўную аплату працы. На мой погляд, гэта няправільна. Пры любым узроўні асноўнай аплаты працадня дадатковая аплата карысная ва ўсіх галінах гаспадаркі.

...У калгас імя Сталіна Навагрудскага раёна я прыехаў пад вечар. У канцылярыі праўлення было поўна народу. Мне сказалі, што сёння калгаснікі пятай брыгады атрымліваюць грошы на працадні за 1960 г. Сакратар партыйнай арганізацыі Ілья Іванавіч Лецка растлумачыў:

— Летась калгас два разы выдаваў грашовыя авансы, у верасні — натуральныя: збожжа і бульбу. У сярэднім на працадзень прыйшлося па дванаццаць рублёў. Але паколькі мы ўжываем элементы гаспадарчага разліку, дык пятая брыгада атрымлівае па 14 рублёў 40 капеек на кожны працадзень. Апрача гэтага, 20 працэнтаў грашовага даходу ад рэалізацыі ільнопрадукцыі размяркоўваюцца паміж членамі ўсіх звенняў. Таму нашы людзі змагаюцца за высокі ўраджай ільну і выдатную якасць валакна.

Ілья Іванавіч пазнаёміў мяне з Мартай Уладзіміраўнай Кошур. Гэтая энергічная маладая жанчына ўзначальвае ільнаводчае звяно восем год. Летась звяно здало амаль па 9 цэнтнераў валакна і 7,5 цэнтнера ільнасемя з кожнага гектара. У гэтым звяне прыйшлося на «ільняны» працадзень па 9 рублёў дадатковай аплаты.

Сакратар партыйнай арганізацыі калгаса адзначае, што ўсё гэта натхняе калгаснікаў на лепшую працу. Усе яны заклапочаны справамі грамадскай гаспадаркі і цвёрда ўпэўнены ў рэальнасці датэрміновага выканання сямігодкі сваёй арцелі.

**Я. ЗАЛЕСКІ.**

